


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 16 (187) ЛІСТАПАД 2014 ГОДА

**Цытата нумара:**

***Закону мала быць справядлівым: трэба, кабяго прызналі такім людзі, ад якіх ён чакае падпарадкавання***

*Тэртуліян, хрысціянскі багаслоў*

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## КАЖУЦЬ АДНО, А Ў РЭАЛЬНАСЦІ ІНШАЕ

**Рэальнае становішча з сельскай гаспадаркай іншае, чым пра яго распавядае абласная прапаганда. Апошнія афіцыйныя даныя Нацыянальнага статыстычнага камітэта засведчылі, што сельская гаспадарка Віцебшчыны знаходзіцца на апошнім месцы у краіне. Гэта датычыцца і зернеуборачнай кампаніі 2014 года.**

Апублікаваны афіцыйныя даныя Нацстаткамітэта аб развіцці краіны за дзевяць месяцаў гэтага году, у тым ліку і па развіццю сельскай гаспадаркі. Шумныя рапарты абласных уладаў аб першым мільёне здабытага збожжа і яго самым вялікім аб'еме пры параўнанні вынікаў ураджая з іншымі абласцямі аказваюцца "арыгінальным" піяр ходам. За гэтым піяр ходам паўстаюць афіцыйныя лічбы, якія кажуць пра іншы стан сельскай гаспадаркі ў вобласці і Гарадоцкім раёне.

Па-першае, Віцебская вобласць аказваецца адзінай вобласцю ў краіне, якая допусціла спад сельскагаспадарчай вытворчасці ў гэтым годзе за дзевяць месяцаў. Аб'ём сельгасвытворчасці ў вобласці склаў толькі 97,0% ад мінулагодняга ўзроўня. Усе іншыя вобласці павялічылі сельгасвытворчасць. У выніку Віцебская вобласць апынулася на апошнім месцы сярод абласцей па аб'ёму сельгасвытворчасці – 12,036 трлн. рублёў. Вышэй Віцебшчыны ўпершыню па аб'ёму прадукцыі за апошнія гады аказалася Магілёўская вобласць – 12, 097 трлн. рублёў. Сярод раёнаў вобласці 14 дапусцілі спад вытворчасці, ў тым ліку і Гарадоцкі раён.

Па-другое. Аб'ём сабранага збожжа ў Віцебскай вобласці самы малы ў параўнанні з іншымі абласцямі краіны – 1 млн. 251 тыс. тон. Таксама ўсе іншыя вобласці маюць значна большы прырост аб'ёма збожжа ў гэтым годзе ў параўнанні з 2013 годам. У Віцебскай вобласці ён склаў 20,8%, у Магілёўскай – 26,7 %, а самы вялікі ў Гомельскай – 54,5%. Адпаведна і ураджайнасць збожжа ў вобласці самая нізкая ў краіне – 28,5 ц/га. Ва ўсіх астатніх абласцях ураджайнасць вышэй за 40 ц/га, за выключэннем Гомельскай вобласці, дзе яна 34,7 ц/га.

У Гарадоцкім раёне збожжа ў бункернай масе сабралі значна больш, чым у мінулым годзе -- 41 665 тон: на 30,2%. Гэта дазволіла раёну апынуцца на 14 месцы сярод іншых раёнаў вобласці па аб'ёму збожжа. Ды і ўраджайнасць павялічылася з 18,5 ц/га да 27,5 ц/га.

Па-трэцяе. Нягледзячы на вялізарныя ўкладанні ў малочную вытворчасць за апошнія тры гады ў Віцебскай вобласці за дзевяць месяцаў адбылося самае вялікае скарачэнне вытворчасці малака і мяса – адпаведна да 93,2% і 90,2 % у параўнанні з мінулым годам. Скарачэнне вытворчасці малака і мяса таксама адбылося і ў Гарадоцкім раёне, як і ў большасці раёнаў вобласці. Па вытворчасці малака мы вышэй толькі такіх знікаючых раёнаў, як Расонскі, Ушацкі і апярэдзілі Шумілінскі раён.

Відавочна, што бюджэтныя грошы не даюць аддачу на якую разлічвалі ўлады. І гэта не дзіва пры такім дзяржаўным адміністраванні сельскай гаспадаркі.

**Леанід Гаравы**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

ДЭМАГРАФІЧНЫ КРЫЗІС

## ІМКЛІВАЕ СКАРАЧЭННЕ НАСЕЛЬНІЦТВА РАЁНА

**Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў зборнік "Рэгіёны Рэспублікі Беларусь. Сацыяльна-эканамічныя паказчыкі, 2014". У дадзеным зборніку добра бачна імклівае скарачэнне насельніцтва сельскіх раёнаў Беларусі з пачатку 21 стагоддзя.**

Афіцыйныя даныя дэманструюць скрушную карціну вымірання насельніцтва Гарадоцкага раёна за 2001—2013 гады. Калі бачыш штомесячныя агляды сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёнаў Беларусі, то адносна невялікія лічбы памяншэння насельніцтва не так яскрава ўспрымаюцца, як дынаміка змяншэння насельніцтва за 13 гадоў.

Статыстычныя даныя сведчаць, што ў 2001 годзе у раёне пражывала 33410 чалавек, з іх 14070 жыла ў Гарадку, 1999 у г.п. Езярышча, а 17341 чалавек пражывала ў сельскай мясцовасці. За трынаццаць гадоў жыцця ў "квітнеючай і моцнай" Беларусі насельніцтва раёна скарацілася больш чым на дзевяць тысяч чалавек і жыхароў края засталося ў 2013 годзе 24 238 чалавек. У райцэнтры насельніцтва скарацілася на дзве тысячы да 12 058 чалавек, у г.п. Езярышча засталося 1386, а ў сельскай мясцовасці ўжо толькі 10 794 чалавека.

Гэтае катастрафічнае скарачэнне насельніцтва яскрава адлюстроўвае сітуацыя са школьнікамі ў раёне. У 2000/01 навучальным годзе ў раёне было 35 устаноў агульнай сярэдняй адукацыі, дзе навучалася 4,6 тысяч школьнікаў. Але ў 2013/14 навучальным годзе ў раёне засталося такіх навучальных устаноў 17 і ў іх навучалася толькі 2,1 тысячы дзяцей.

Таксама за першыя трынаццаць гадоў адбыліся негатыўныя змены ў структуры насельніцтва. Зменшылася доля насельніцтва працаздольнага ўзросту і маладзей працаздольнага ўзросту на 4% і адпаведна вырасла доля людзей старэйшага за працаздольны ўзрост з 27,6 да 31,7 %. І гэта тэндэнцыя па прагнозах будзе толькі паскарацца.

**Л. Антонаў**

РЫНАК ПРАЦЫ

## МОЛАДЗІ ЗАБРАНІРАВАЛІ МЕСЦЫ Ў КАЛГАСАХ

**Гарадоцкі райвыканкам рашэннем №916 устанавіў браню на 2015 год для прыёма на працу 97 грамадзян, якія маюць патрэбу ў сацыяльнай абароне і не здольны канкурыраваць на рынку працы.**

Гэтая браня датычыцца і бацькоў, якія абавязаны кампенсаваць выдаткі на ўтрыманне дзяржавай іх дзяцей, якія знаходзяцца на поўным дзяржаўным утрыманні. Менавіта гэта катэгорыя грамадзян самая шматлікая, для якой прадпрыемствы Гарадоччыны абавязаны забяспечыць працоўныя месцы. Такіх грамадзян, якія пазбаўлены бацькоўскіх правоў -- 67. Наступная шматлікая катэгорыя – грамадзяне вызваленныя з месцаў пазбаўлення волі. Такіх грамадзян у 2015 годзе чакае 10 працоўных месцаў.

Браню для грамадзян павінны забяспечыць у 2015 годзе 24 прадпрыемства Гарадоччыны. Найбольшую колькасць месцаў павінны забяспечыць Гарадоцкае прадпрыемства кацельных і цеплавых сетак – 11, свінагадоўчы комплекс "Паўночны" – 10, ААТ "Гарадоцкі РАПЗ" – 9.

Сярод тых, хто не здольны канкурыраваць на рынку працы і бацькі, якія маюць шматдзетныя семьі -- 5, інваліды – 5, сіраты –2, прадпенсійнага ўзросту – 2. Таксама браніруецца пяць месцаў і для моладзі да 21 года, якія шукаюць першае месца. Для маладых людзей бронь абавязаны трымаць: Гарадоцкая птушкафабрыка, Гарадоцкі РАПЗ, Гарадоцкі льназавод, свінакомплекс "Паўночны" і Гарадоцкі лясгас.

**Л. Антонаў**

ПЬЯНСТВУ – БОЙ!

## ЧАРГОВАЯ КАНФІСКАЦЫЯ ТРАНСПАРТНАГА СРОДКА

**Малады чалавек пасля вяртання з войска ў сувязі з паўторным кіраваннем у нецвярозым стане рашэннем суда Гарадоцкага раёна пазбаўлены аўтамабіля і абмежаваны ў свабодзе на два гады з пазбаўленнем права на кіраванне аўтамабілем на пяць гадоў.**

На мінулым тыдні старшыня суда Гарадоцкага раёна Аляксандр Ляшковіч разгледзіў крымінальную справу па арт. 317-1 ч. 1 у адносінах да маладога чалавека Аляксея Б., які на працягу двух месяцаў двойчы затрымліваўся супрацоўнікамі праваахоўных органаў пры кіраванні аўтамабілем у нецвярозым стане.

Малады чалавек 1994 года нараджэння пасля вяртання з войска ў траўні гэтага года двойчы трапіў супрацоўнікам Гарадоцкага РАУС пры кіраванні "пяцёркай" у нецвярозым становішчы. Першы раз гэта адбылося напрыканцы ліпеня, калі выпіўшы ў кампаніі, малады чалавек паехаў у Гарадок у сябрамі. Каля вёскі Даўгаполле супрацоўнікі міліцыі прапанавалі яму спыніцца, але кіроўца непадпарадкаваўся патрабаванню міліцыі і паспрабаваў уцячы. Толькі прагучаўшае папярэджанне аб стральбе прымусіла нецвярозага кіроўцу спыніцца. Экспертыза паказала наяўнасць у крыві 1,0 праміле алкаголю. Па рашэнню суда маладзён выплаціў каля дзесяці мільёнаў рублёў штрафу.

Але гэты ўрок не пайшоў маладому чалавеку на карысць. На другі дзень Дажынак пасля ўжывання алкаголю Аляксей вырашыў перагнаць "пяцёрку" бліжэй да дому, але ў двары дома быў затрыманы супрацоўнікам міліцыі. Экспертыза паказала наяўнасць у крыві 0,5 праміле алкаголю.

Паўторнае кіраванне ў стане алкагольнага апьянення аўтаматычна прывяло да крымінальнай справы. На пасяджэнні суда малады чалавек прызнаў сваю віну і не прасіў змякчэння пакарання. Па рашэнню суда Аляксей абмежаваны ў свабодзе на два гады, з заробка будзе ўтрымлівацца 25%, а аўтамабіль 1992 года канфіскаваны на карысць дзяржавы. Аднавіць правы кіроўца малады чалавек здолее не раней 2019 года.

**Леанід Гаравы**

ПРАЦАЎЛАДКАВАННЕ

# ВЫЙШЛІ СУХІМІ…

**Віцебскі абласны кіраўнік партыі БНФ Леанід Аўтухоў зьвярнуўся ў Камітэт дзяржкантролю з заявай аб прыцягненьні да адміністрацыйнай адказнасьці начальніка Гарадоцкага аддзелу занятасьці Галіну Сталярову або начальніка Гарадоцкага вузла паштовай сувязі Людмілу Камякову. Але КДК Віцебскай вобласьці ня стаў на просьбу апазыцыянэра караць чыноўнікаў.**

На думку Аўтухова, начальнік Гарадоцкага аддзелу занятасьці Галіна Сталярова і начальнік Гарадоцкага вузла паштовай сувязі Людміла Камякова парушылі яго правы і законныя інтарэсы, даўшы яму наўмысна скажоную інфармацыю. КДК распачынаць адміністрацыйны працэс у дачыненьні згаданых службовых асоб адмовіўся…

Леанід Аўтухоў зьвярнуўся ў дзяржкантроль пасьля таго, як няўдала паспрабаваў скарыстацца з паслугаў службы занятасьці. Хаця напачатку пэрспэктывы працаўладкавацца праз гэтую службу выглядалі аптымістычна: зьвярнуўшыся туды, Аўтухоў атрымаў накіраваньне на працу ў якасьці кіроўцы аўтамабіля на пошту. Таксама яму было выдадзенае накіраваньне на мэдычны агляд.

«Усе неабходныя працэдуры па згаданых накіраваньнях я добрасумленна выканаў. Пры гэтым аплаціў праезд і змарнаваў асабісты час. Насамрэч высьветлілася, што вышэйназваная вакансія адсутнічае», – распавёў Леанід Аўтухоў.

«Мяркую, што службовая асоба Сталярова Г.Л. наўмысна дала мне скажоную інфармацыю пра наяўнасьць у Гарадоцкім раённым вузьле паштовай сувязі унітарнага прадпрыемства "Віцебскаблпошта" вакансіі кіроўцы аўтамабіля, – напісаў ён у Камітэт дзяржкантролю. – Таксама мяркую, што службовая асоба Камякова Л.М. наўмысна дала мне скажоную інфармацыю пра адсутнасьць вакансіі. Сваімі дзеяньнямі Сталярова Г.Л. і Камякова Л.М. парушылі мае правы, у прыватнасьці права на працу і працаўладкаваньне з дапамогай дзяржавы, якія гарантаваныя мне артыкулам 41 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і іншымі дзейнымі законамі краіны».

Паводле лёгікі партыйнага актывіста, прынамсі адна зь дзьвюх начальніц, наконт якіх ён зьвярнуўся ў КДК, падманула яго, чым парушыла адміністрацыйны кодэкс. Бо адна сьцьвярджала, што ёсьць вакансія, а другая – што гэтай вакансіі няма. Таму кагосьці зь іх трэба было прыцягнуць да адказнасьці. Аднак у Камітэце дзяржаўнага кантролю Віцебскай вобласьці палічылі па-іншаму.

Першы намесьнік старшыні камітэту Вадзім Заранкін паведаміў Аўтухову, што падставы для пачатку адміністрацыйнага працэсу адсутнічаюць: «Ня выяўлена доказаў, якія сьведчаць пра незаконнасьць дзеяньняў названых службовых асоб, а таксама пра наяўнасьць намеру ў скажэньні інфармацыі».

«Таксама інфармуем пра тое, што згодна з артыкулам 9.6 КаАП прыцягненьне службовай асобы да адміністрацыйнай адказнасьці магчымае ў выпадку адсутнасьці ў яго дзеяньнях складу злачынства. Такім чынам, пытаньне аб прыцягненьні да адміністрацыйнай адказнасьці паводле артыкулу 9.6 КаАП можа разглядацца толькі пры наяўнасьці пастановы органу крымінальнага перасьледу аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы паводле артыкулу 204 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь», – дадаў намесьнік старшыні Камітэту дзяржаўнага кантролю Віцебскай вобласьці.

Вось жа, як вынікае з паперы, атрыманай з КДК, скажэньне інфармацыі чыноўнікамі сапраўды мела месца. Але пры гэтым быццам бы ніхто не вінаваты. Цікава, а калі б гаворка вялася пра парушэньне адміністрацыйнага кодэксу кімсьці з апазыцыянэраў, да яго паставіліся б гэтаксама лагодна? Выходзіць, закон што дышаль?

**http://vitebskspring.org**

БРАКАНЬЕРСТВА

# ПАПАЎСЯ

**Пасля зменаў Правілаў рыбалоўства амаль кожнае затрыманне браканьера цягне да крымінальнай справы. Гэта спаўна адчуў жыхар в. Лабок Невельскага раёна.**

Паводле інфармацыі прэс-службы Дзяржінспекцыі 28 кастрычніка работнікі Гарадоцкай міжраённай інспекцыі на памежным возеры Езярышча затрымалі грамадзяніна Расійскай Федэрацыі - жыхара вёскі Лабок Невельскага раёна. Састаўной лескавай сеткай мужчына незаконна здабыў 54 асобіны дробнай плоткі. Шкода нанесеная прыродзе ацэнена па 150 тысяч рублёў за кожную плотку.

Гэта аказалася дастаткова, каб Гарадоцкі аддзел следчага камітэта пачаў вырашаць пытанне аб узбуджэньні крымінальнай справы па ч. 2 арт. 281 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Пагэтамуартыкулунезаконная здабыча рыбы, якая пацягнула прычыненне шкоды ў буйным памеры - 54 базавыя велічыні, наказваецца штрафам або арыштам або абмежаваннем волі да двух гадоў або яе пазбаўленне на тэрмін да трох гадоў. Толькі дабраахвотная кампенсацыя шкоды і выплата штрафа пазбавіць жыхара Лабка ад закрыцця крымінальнай справы.

**Т. Гаражанка**

ПРАВАПАРАДАК

# ГРАМАДЗЯНЕ ІГНАРУЮЦЬ ПАСЯДЖЭННІ СУДА

**5 лістапада сем мяркуемых правапарушальнікаў, у адносінах да якіх павінны быць разгледжаны адміністрацыйныя справы, не з'явіліся на судовае пасяджэнне ў суд Гарадоцкага раёна.**

5 лістапада не адбыўся разгляд ніводнай адміністрацыйнай справы, якія павінна была разглядаць суддзя Ганна Гурынава. Грамадзяне не з'явіліся на пасяджэнні на якіх павінны былі разглядацца іх адміністрацыйныя справы. Пры гэтым разглядацца павінны былі самыя разнастайныя правапарушэнні.

Першай павінна была б разглядацца справа аб незаконным абароце нафтавага вадкага паліва. Гэта правапарушэнне па арт. 12.30 ч.3 пры перавозцы паліва звыш 100 літраў прадугледжвае штраф да 100 базавых велічынь ( 15 млн. руб.) з канфіскацыяй паліва звыш нормы. Але грамадзянін на адведзеныя 10 хвілін для разгляду справы не з'явіўся.

Таксама напрацягу 10 хвілін не была разгледжана справа і па арт. 12.27 ч.2 аб незаконным увозе ў краіну больш дзесяці літраў алкагольнай прадукцыі, якая немаркіравана маркамі Рэспублікі Беларусь. Па гэтаму артыкулу таксама прадугледжана канфіскацыя незаконнай алкагольнай прадукцыі і штраф да 50 базавых велічынь.

Суддзя Ганна Гурынава не разгледзіла і правапарушэнне па арт. 17.6 ч. 1, якое па прыкметах адпавядае заведама хлуслівому паведамленню аб выкліканні міліцыі, хуткай дапамогі, пажарнікаў, на якое гэтыя спецыялізаваныя службы прарэагавалі, а заяўленай праблемы не было. За гэта мусіць быць пакаранне ў выглядзе штрафу ад 4 да 15 базавых велічынь.

Яшчэ ў гэты дзень не з'явіліся грамадзяне на судовыя пасяджэнні ў адносінах да якіх выстаўлены абвінавачанні па артыкулу 15.5 ч.1 -- парушэнне парадку захавання радыяактыўных адходаў і па арт. 17.1 і 9.3 – адпаведна дробнае хуліганства і знявага.

Але ўсё ж у гэты дзень Ганна Гурынава разгледзіла адну адміністрацыйную справу. У суд з'явіўся дырэктар аднаго з прадпрыемстваў Віцебска, якога 25 кастрычніка на возеры Свіны затрымалі супрацоўнікі Гарадоцкай міжраённай інспекцы па ахове жывёльнага і расліннага свету. Грамадзянін спрабаваў на дарожку з гумавай лодкі з матарам на забароненым возеры злавіць рыбу. За гэта пакушэнне на дабычу рыбы грамадзянін атрымаў штраф у 10 базавых велічынь. Пры поўным прызнанні сваёй віны, наяўнасці непаўнагадовага сына і з улікам, што гэта першая адміністрацыйная справа для жыхара Віцебска суддзя не канфіскавала на карысць дзяржавы затрыманы спінінг.

**Л. Антонаў**

КРАДЗЁЖ

# ВЫРАТАВАЛА СІСТЭМА ВІДЭАНАЗІРАННЯ

**Жыхару Гарадоцкага раёна знайшлі скрадзены на станцыі "Гарадок" заплечнік, дзякуючы камерам відэаназірання**

Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага абласнога ўпраўлення МУС 31 кастрычніка ў 13 гадзін 25 хвілін у Віцебскі АУСТ звярнуўся працоўны 1971 нараджэння. Жыхар Гарадоцкага раёна паведаміў, што 30 кастрычніка ў перыяд з 16 да 18 гадзін на пероне станцыі "Гарадок" неўсталяваны злачынец здзейсніў крадзеж пакінутага без нагляду заплечніка, у якім знаходзіліся: дакументы і прадукты харчавання. Шкода склала 450 тыс. рублёў.

З выкарыстаннем сістэмы відэаназірання папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў жыхар Гарадка 1956 года нараджэння.

4 лістапада Гарадоцкім аддзелам Следчага камітэта ўзбуджана крымінальная справа па ч. 1 арт. 205 КК.

**Т. Гаражанка**

СПАРТЫЎНЫ АБ'ЕКТ

# ПРЭТЭНДЭНТ НА ПРАВЯДЗЕННЕ МІЖНАРОДНЫХ СПАБОРНІЦТВАЎ

**Лыжероллерная траса пад Гарадком у Віцебскай вобласці можа прэтэндаваць на правядзенне спаборніцтваў па біятлоне міжнароднага ўзроўню. Пра гэта 4 лістапада пасля азнаямлення з аб'ектам заявіў журналістам рэйс-дырэктар Кубкаў свету IBU Борут Нунар, перадае карэспандэнт БЕЛТА**

"Сама траса і рэльеф мясцовасці адпавядаюць міжнароднаму ўзроўню. Трэба сказаць вялікі дзякуй людзям, якія ўкладвалі грошы, праектавалі і будавалі гэты аб'ект", - сказаў рэйс-дырэктар.

Адказваючы на пытанне карэспандэнта БЕЛТА аб магчымых перспектывах правядзення тут этапаў Кубка свету і Еўропы па біятлоне, Борут Нунар адзначыў, што сама траса - гэта толькі 10% праекта з ўсяго біятлоннага комплексу, прызначанага для спаборніцтваў такога ўзроўню. "Стадыён і спартыўная інфраструктура - гэта 50%. Ёсць яшчэ лагістыка, гасцініцы, транспарт, электраэнергія і г.д. Трасу таксама трэба яшчэ праверыць на адпаведнасць міжнародным нормам. Спадзяюся, пры будаўніцтве былі ўлічаны правілы і ўсё зрабілі як трэба", - выказаў надзею рэйс-дырэктар.

Борут Нунар ўпершыню ў Беларусі. З лістапада ён пабываў у Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відах спорту "Раўбічы". "Там спраектаваны і пабудаваны біятлонны цэнтр, які мог бы знаходзіцца ў любым месцы Еўропы, няхай гэта будзе Германія, Італія, Нарвегія." Раўбічы "- адзін з лепшых спартыўных цэнтраў свету", - сказаўпрадстаўнікміжнароднай федэрацыі біятлону. Ён выказаў надзею, што ствараемы пад Гарадком спартыўны комплекс будзе не горш "Раўбіч".

Звяртаючыся да юным спартсменам, якія праводзяць падГарадкомтрэніроўкі,эксперт адзначыў, што ва ўсім свеце расце папулярнасць спорту. "Спорт - гэта заўсёды прыгожа. А ваша траса размешчана ў вельмі маляўнічым месцы - тут прыгожая прырода і мінімальная колькасць бетону. Гэта велізарны падарунак для вас. Жадаю ўдачы і ў жыцці, і ў спорце", - сказаў на заканчэнне Борут Нунар.

**http://www.belta.by**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БЯСПЕКА

# МОВА ЯК ЗБРОЯ

**Апошнім часам чынавентсва заклапацілася праблемай ужытку беларускай мовы. Пэўна, пачулі вядомы інтэрнэт-мем: «Размаўляйце цішэй па-руску, а то Пуцін дашле танкі вас ратаваць!»**

Апошнім часам як грамадства, так і чыноўніцтва заклапацілася праблемай існавання і ўжытку беларускай мовы.

З’езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, які прайшоў у Мінску 2 лістапада, наведала галоўны спецыяліст Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Людміла Лебедзь. Яна не пабачыла ніякіх праблемаў з ужываннем беларускай мовы. «Дакументы, якія прыходзяць да нас па-беларуску, атрымліваюць беларускамоўны адказ. Развіваецца беларускамоўны тэатр і наша музычная культура. Нашы паэты-песеннікі ствараюць добрыя беларускамоўныя песні, якія з задавальненнем выконваюць і прафесійныя артысты, і аматары. Мы існуем у беларускім асяроддзі», — заявіла Людміла Лебедзь Радыё «Свабода».

Яна ўпэўненая, што моўная праблема ў Беларусі — гэта праблема сямейнага выхавання, а суіснаванне дзвюх моваў — рускай і беларускай — не праблема. На заўвагу аб тым, што асяроддзе не спрые пераходу на беларускую мову, чыноўніца заявіла, што асабіста ў яе няма ніякіх перашкод гаварыць на той мове, на якой хочацца, у тым ліку на беларускай.

Калісьці я таксама адказваў на пытанне НІСЭПД: «Ці хвалюе вас стан беларускай мовы?». Спачатку я намыліўся быў адказаць «не», бо для мяне не праблема стасавацца па-беларуску. Але калі дапетрыў, што апытанка агульнанацыянальная, і варта ацэньваць не «асабістыя адносіны», а стан беларускай мовы ў цэлым, то давялося адказаць «так». Сапраўды, з беларускай мовай у нас шмат праблемаў.

І літаральна цягам месяца гэтай праблеме пачалі надаваць шмат увагі. Напрыканцы верасня Лукашэнка заявіў, што ў школах варта было б дадаць гадзіну ў тыдзень на беларускую мову. Прэм’ер Міхаіл Мясніковіч на калегіі Саўміна раптам выступіў па-беларуску. Нават неўгамонны «крыэйтар», віцэ-прэм’ер Анатоль Тозік заявіў: «Гэта будзе жахліва, калі мы страцім мову. Чым мы тады будзем адрозніваца ад нашых суседзяў?» Як наступства ўсяго гэтага, зараз абмяркоўваецца пытанне аб тым, каб увесці абавязковы экзамен па дзвюх дзяржаўных мовах за курс сярэдняй школы (цяпер навучэнцы здаюць такі экзамен па выбару).

На сустрэчы з пісьменнікамі Лукашэнка заўважыў, што яму дастаткова "пару гадзінаў" паразмаўляць па-беларуску, каб цалкам перайсці на мову. Дый сентэнцыі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыса Пятровіча наконт беларускіх класаў, беларускамоўных школаў і, урэшце, беларускамоўнай ВНУ Аляксандр Рыгоравіч выслухаў, можа, і без імпэту, але з пэўным паразуменнем.

Дык чаму ж улады (не ўсе, што праўда) раптам заклапаціліся праблемай развіцця нацыянальнай мовы? Бо пасля 1994 года згортванне «гвалтоўнай беларусізацыі» падавалася як ці не найпершае дасягненне кіраўніка краіны?

Уладызразумелі, што мова — гэта таксама зброя. Асабліва яскрава гэта выявілася ў падзеях ва Украіне. З аднаго боку, менавіта пагроза «гвалтоўнай украінізацыі» падштурхнула Данбас у накірунку «рускай вясны», а потым і «Наварасіі». З іншага — руская мова стала мовай не толькі «межнацыянальных зносінаў», але і мовай варожасці, дасціпнай прапаганды і інфармацыйнай вайны.



Новы час

Ва ўладзе, пэўна, пачулі развагі пра тое, што на Данбасе Пуцін не спыніцца. Паўстае простае пытанне: «Хто наступны?». Беларусь выглядае лёгкім кавалкам, які проста пракаўтнуць. І справа не ў нас, а ў тым, што важней для Пуціна — страта праз далучэнне адзінага саюзніка альбо ўласны рэйтынг, які трэба падсілкоўваць геапалітычнымі перамогамі «рускага свету».

Так што нам трэба даказаць, што мы — не «Паўночна-Заходні край», а суверэнная дзяржава са сваёй мовай, гербам, сцягам і гэтак далей. І спадзявацца на тое, што другую хвалю экспансіі «рускага свету» Захад не пацерпіць.

Праблема мовы, такім чынам, перастала быць праблемай «вузкаінтэлігенцкай», а стала праблемай грамадскай і геапалітычнай. Паводле дадзеных ліпеньскіх апытанняў Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі, сярод найбольш вострых пагрозаў для краіны на бліжэйшую чвэрць стагоддзя грамадзяне краіны назвалі страту роднай мовы — разам са змяншэннем колькасці насельніцтва, п’янствам і алкагалізмам, наплывам мігрантаў, экалагічнымі праблемамі і зніжэннем узроўню жыцця. А паводле атласу ЮНЭСКА «Мовы свету ў небяспецы», беларуская мова таксама знаходзіцца пад пагрозай знікнення.

Пад пагрозай экспансіі «рускага свету» нам даводзіцца зноў вяртацца туды, адкуль сышлі пасля рэферэндуму 1995 года, які «зраўняў у правах» рускую і беларускую мовы. Ці пойдуць улады на «адраджэнне Адраджэння»? І наколькі глыбокай будзе «другая хваля беларусізацыі»? Нават калі яна будзе фармальнай, гэта лепш, чым нічога.

**Сяргей Пульша**
**«Новы час»**

НАША ЎЛАДА

# ЯК ЛУКАШЭНКА БЕЛАРУСАЎ ПЕСЦІЎ

**Размаўляючы з працоўным калектывам ТАА «Протас» у Магілёўскай вобласці, Аляксандр Лукашэнка зрабіў дзве цікавых заявы. Па-першае, прызнаў, што ў краіне крызіс, па-другое, сказаў, што распешчваў беларусаў.**

**Што аб гэтым думаюць пястуны лёсу, і чым песціў народ кіраўнік дзяржавы?**

*- Я часта кажу пра тое, што я вас крыху разбалавалі, -* заявіў Лукашэнка. *- Нельга залішне дапамагаць чалавеку, бо ён тады перастае працаваць. Вазьміце, напрыклад, Расею: там мала хто спадзяецца на дзяржаву, чалавек імкнецца дзесьці знайсці працу і зарабіць.*

Прэзідэнт падкрэсліў, што грошы ў першую чаргу трэба зарабіць, і цяпер у Беларусі гэта зрабіць можна. На яго думку, больш мабільнымі павінны быць і самі людзі, пераязджаючы ў тыя месцы, дзе ўжо ёсць жыллё і праца.

Фразы аб "избалованности" беларусаў з вуснаў Лукашэнкі ў апошні час даводзіцца чуць рэгулярна.

**«Праз нас лётаюць, бягуць, паўзуць, на роварах ездзяць ...»**

У кастрычніку 2013. прэзідэнт на прэс-канферэнцыі выдаў, што «беларусы нашы трохі распешчаны».

*- Распешчанай дзяржавай. У нас толькі ляніва можа не зарабіць грошы,* - удакладніў афіцыйны лідэр.

**«Час іх ацверазіць, паставіць у рамкі і прымусіць працаваць»**

Аўлістападзе 2013. Лукашэнка папракнуў ў избалованности кіраўнікоў на вёсцы.

*- Мы, да прыкладу, у вёсцы дзяржаўнымі праграмамі па развіццю вёскі трохі распесцілі нашых кіраўнікоў. Мы іх вярнулі ў тыя савецкія часы, калі мы працавалі і ведалі, што нам дадуць крэдыты, па разнарадцы тэхніка прыйдзе, дзе-то сам паварушылі - больш-менш вырвеш і гэтак далей. У гэтай частцы мы якто вярнулі нашых кіраўнікоў у той час. Пара іх ацверазіць, паставіць у рамкі і прымусіць працаваць,* - сказаў кіраўнік дзяржавы.

**«Пры сярэднім заробку ў 500 $ як можна напружыцца, каб купіць кватэру 1300-1700 $ за квадратны метр?»**

Цікава, што апошняя заява аб "избалованности" беларусаў прагучала на фоне падзення сярэдняй зарплаты, якая, па дадзеных Белстата, у верасні склала 6 335,3 тысячы рублёў і зменшылася ў параўнанні са жніўнем на 0,5%.

У той час, калі рост тарыфаў на камунальныя паслугі перавысіў тэмпы росту працоўных і сацыяльных пенсій.

Калі маладыя спецыялісты, якія працуюць на паўтары стаўкі на «хуткай», атрымліваюць 3.400.000, а памочнік выхавальніка ў дзіцячым садзе пасля абяцанага педагогам павышэння заробкаў выжывае на 2,2 млн.

Хто з іх адчувае сябе распешчаным дзяржавай, якая працягвае карміць абяцаннямі бюджэтнікаў і без праблем знаходзіць 100 мільёнаў еўра на будаўніцтва новай прэзідэнцкай клінікі?

У беларусаў словы Лукашэнкі аб іх «избалованности» выклікаюць хіба што горкую іронію.

*- Пры сярэднім заробку ў 500 $ як можна напружыцца, каб купіць кватэру 1300-1700 $ за квадратны метр, пры гэтым маючы яшчэ як мінімум аднаго дзіцяці? Можа, раскажуць чыноўнікі і прэзідэнт?* - Выказаўся на форуме TUT.BY карыстальнік topcomfort-m.

Заклік Лукашэнкі «трошкі напружвацца маладым сем'ям» пракаментавала наведвальнік форуму Эльза_Юстинова:

*- У маладых сем'ях мужыкі напружаныя больш няма куды, працуючы на двух работах, каб пракарміць сям'ю. Так яшчэ, мабыць, трэба і жонкам напружыцца: дзіцяці ў калыску - і за спіну і рыдлёўкай махаць ў калгасе! Толькі, на жаль, у нас у краіне не зробіш, гэтым на жыллё.*

**Вольга Слуцкая**
**gazetaby.com**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ЦІ ПАТРЭБНЫЯ РАСІЙСКІЯ ВАЕННЫЯ БАЗЫ?

**У Беларусі ў 2016 годзе будзе створана яшчэ адна расійская авіябаза, на якой стануць базіравацца знішчальнікі Су-27.**

Пра гэта паведаміў галоўнакамандуючы Ваенна-паветраных сіл Расіі Віктар Бондараў. Беларускія афіцыйныя асобы нават не лічаць неабходным інфармаваць грамадскасць пра падобныя намеры.

Як высветлілася, ваенны аэрадром у Бабруйску будзе рэканструяваны, расійскія спецыялісты падрыхтавалі ўжо тэхнічнае заданне на правядзенне гэтых работ, растлумачыў Віктар Бондараў, перадае ТАСС.

Яшчэ некалькі знішчальнікаў Су-27, як расказаў усё той жа Віктар Бондараў, размесцяць у Баранавічах, дзе ўжо створана расійская авіябаза. Толькі ці патрэбны нам гэтыя расійскія аты-баты, тым больш што адносіны ўсходняй суседкі з многімі краінамі свету абвастраюцца? Зараз усе, нават партнёры па СНД, наадварот, стараюцца пазбавіцца ад расійскіх вайскоўцаў, піша "Народная воля".

**Патэнцыяльная пагроза**

Як беларусы ставяцца да прысутнасці ў краіне расійскіх авіябаз? Гэта спрабавалі даведацца ў простых людзей актывісты кампаніі “Народны рэферэндум”.

Актывісты “Народнага рэферэндуму”, які ініцыяваны рухам “За Свабоду”, кампаніяй “Гавары праўду!”, Партыяй БНФ і падтрыманы БСДП (Грамада) і аргкамітэтам па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу, днямі перадалі ў Палату прадстаўнікоў каля 50 тысяч подпісаў у падтрымку неабходнасці правядзення рэферэндуму.

**Натуральна, падчас збору подпісаў у актывістаў была магчымасць пачуць ад простых беларусаў іх меркаванні з гэтай нагоды. Якія яны?**

— Па гэтай праблеме адчуваецца дынаміка, — кажа намеснік старшыні руху “За Свабоду” Юрась ГУБАРЭВІЧ. — Мы пачалі збор подпісаў яшчэ вясной гэтага года, напярэдадні выбарчай кампаніі ў мясцовыя Саветы. І тады большасць людзей наогул не лічыла, што пытанне прысутнасці расійскіх авіябаз у Беларусі вельмі актуальнае для краіны, хоць шмат было і тых, хто прытрымліваўся нейтральнай пазіцыі. Але ў апошнія месяцы мы заўважылі змену настрояў. Усё больш беларусаў разумеюць, што наяўнасць чужых вайсковых

**(працяг на стар. №4)**

БЮДЖЭТ-2015

# ГРОШАЎ ЎШЧЫЛЬНУЮ, А ВЫБАРЫ ПРАВОДЗІЦЬ ТРЭБА

**Год палітычнай актыўнасці ў Беларусі фактычна пачаўся - на вышэйшым дзяржаўным узроўні практычна кожны тыдзень кажуць пра будучай прэзідэнцкай кампаніі. Пад асаблівы перыяд неабходны і асаблівы бюджэт. Да цяперашняга часу ўлады ўжо падрыхтавалі праект галоўнага фінансавага дакумента на 2015 год.**

Інтэрнэт-газета Naviny.by разам з незалежнымі экспертамі вырашыла разабрацца, чаму ў год выбараў улады збіраюцца пайсці на непапулярныя меры ў сферы бюджэтна-падатковай палітыкі.

**Перадвыбарчы рост заробкаў можа з'есці інфляцыя**

Пяць гадоў таму, калі ўлады рыхтавалі бюджэт на год выбараў (2010-ы), задачы ставіліся амбіцыйныя: забяспечыць эканамічны рост на 11-13%, давесці сярэдні заробак да «святога», як казаў прэзідэнт, ўзроўню (500 даляраў). Мала таго, былі прынятыя рашэнні аб зніжэнні працэнтных ставак па жыллёвых крэдытах, у выніку чаго грошы на будаўніцтва жылля выдаваліся насельніцтву практычна бясплатна (пад 1% гадавых).

Задачы, якія ставіць сёння ўрад на 2015-ы год, калі павінны адбыцца выбары, нашмат больш сціплыя, чым пяць гадоў таму. Становішча спраў у сферы дзяржаўных фінансаў не дазваляе жыць на шырокую нагу. Вялікія выплаты па вонкавым абавязку ў будучым годзе і, як следства, абмежаванасць бюджэтных сродкаў прымушаюць урад ісці на непапулярныя меры ў год палітычнай актыўнасці.

Так, праектам бюджэту на будучы год прадугледжана павелічэнне падаходнага падатку з цяперашніх 12% да 13%. Улады акцэнтуюць увагу на тым, што дадатковыя падатковыя паступлення будуць накіраваныя на падтрымку шматдзетных сем'яў. Выходзіць, каб стымуляваць у краіне нараджальнасць, даводзіцца павышаць падатковую нагрузку на насельніцтва. Такая сітуацыя відавочна сведчыць пра тое, што грошай у бюджэце не хапае.

Відавочна, па кішэні насельніцтва ударыць і іншая мера - павышэнне ставак акцызаў у 2015 годзе. Ва ўмовах, калі роля падатку на прыбытак (з-за панізіліся даходаў прадпрыемстваў) для бюджэту падае, менавіта акцызы становяцца інструментам прыцягнення дадатковых сродкаў у казну.

Праект бюджэту на 2015 год прадугледжвае, што акцызы вырастуць практычна на ўсе групы падакцызных тавараў, у тым ліку на тытунёвыя вырабы - на 15-30%, паліва - на 10%. Яшчэ адна «добрая» навіна - прадугледжана індэксацыя ставак падаткаў, устаноўленых у беларускіх рублях, на велічыню інфляцыі.

Акрамя гэтага, у мэтах павелічэння даходаў бюджэту ўлады маюць намер пайсці ў 2015 годзе ў тым ліку і на неардынарныя меры. У прыватнасці, мяркуецца, што для банкаў і страхавых арганізацый стаўка падатку на прыбытак будзе павялічана з цяперашніх 18% да 25%.

«Шляхам павелічэння ставак падаткаў дзяржава спрабуе знайсці крыніцы для фінансавання дзяржаўных інвестыцый, павышэння заробкаў бюджэтнікам. На эмісійнае фінансаванне эканомікі, улічваючы сумны досвед 2011 года, улады ісці не хочуць, і гэта правільна», - кажа эканаміст Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) Зміцер Крук.

Праектам бюджэту на 2015 год прадугледжана, што выдаткі на зарплату, пенсіі, стыпендыі і іншыя трансферты насельніцтву вырастуць больш чым на 20% у параўнанні з 2014-м. Праўда, калі спраўдзяцца экспертныя прагнозы па інфляцыі, то насельніцтва гэты рост даходаў практычна не адчуе.

Дарэчы, эканамісты кампаніі Sberbank CIB, якая з'яўляецца інвестыцыйным падраздзяленнем расійскага «Ашчадбанка», чакаюць, што інфляцыя ў Беларусі ў 2014 годзе складзе 18%, у 2015-м - 17%.

Яшчэ адна непапулярная мера, на якую збіраюцца пайсці ўлады ў будучым годзе з мэтай павелічэння даходаў бюджэту, была аб'яўлена на мінулым тыдні. Аляксандр Лукашэнка даручыў «імем рэвалюцыі» знайсці дармаедаў і прымусіць іх працаваць.

Паводле ацэнак уладаў, у краіне налічваецца каля 400 тысяч чалавек, якія афіцыйна нідзе не працаўладкаваны.

Любымі спосабамі, якія мы ведаем і ўмеем рабіць, трэба прымусіць гэтых людзей працаваць! Да 1 студзеня прыняць меры, каб усе працавалі, прымусіць усіх працаваць!», - заявіў Лукашэнка.

Каб прымусіць дармаедаў працаваць, нідзе не працуюць будуць прыцягваць да адміністрацыйнай адказнасці, а менавіта - выпісваць ім штрафы. Праўда, беларускія эканамісты лічаць, што барацьба з дармаедствам прынясе дзяржаве больш выдаткаў, чым даходаў у бюджэт.

«Складана будзе вызначыць, хто такі тунеядзец, і таму раней ад гэтай ідэі ўлады адмаўляліся. Акрамя гэтага, калі чалавек тунеядзец, незразумела, адкуль у яго грошы на выплату штрафаў. Выдаткі, звязаныя з барацьбой з дармаедамі, могуць апынуцца вышэй, чым тыя паступлення, якія атрымае бюджэт», - лічыць эканаміст Антон Балточка.

**Падкормліваць электарат сэнсу няма?**

Адным з галоўных выклікаў для беларускага бюджэту ў 2015 годзе стануць выплаты па дзярждоўгу. Паводле ацэнак Мінфіна, у будучым годзе на пагашэнне і абслугоўванне знешняга дзярждоўгу неабходна будзе накіраваць каля 4 млрд. даляраў.

Значныя выплаты па дзярждоўгу (расходы бюджэту па гэтым артыкуле вырастуць у 2015 годзе амаль у паўтара раза) разам з неабходнасцю фінансаваць перадвыбарчую кампанію прымушаюць улады шукаць розныя крыніцы папаўнення казны.

У прыватнасці, праектам бюджэту на 2015 прадугледжаны дадатковыя канфіскацыі сродкаў у бюджэт у высокарэнтабельных дзяржпрадпрыемстваў.

«Перадвыбарная кампанія традыцыйна фінансуецца за кошт усіх магчымых крыніц, уключаючы сродкі дзяржпрадпрыемстваў, мясцовых бюджэтаў, а таксама найбольш прыкметных прыватных камерцыйных арганізацый», - тлумачыць кіраўнік Навуковага даследчага цэнтра Мізэса Яраслаў Раманчук.

Што тычыцца значных выплат па вонкавым абавязку, то на гэтыя мэты плануецца накіраваць вывазныя пошліны на нафтапрадукты, якія ў будучым годзе паступяць у беларускі бюджэт. Акрамя гэтага, у 2015 годзе ў Беларусі будзе ўведзены спецыяльны збор за права экспарту сырой нафты, у выніку чаго плануецца прыцягнуць яшчэ 582000000. Даляраў на пагашэнне абавязацельстваў перад знешнімі крэдыторамі.

Выкарыстоўваючы недаўгавыя крыніцы пагашэння дзярждоўгу, Мінфін прагназуе, што велічыня знешніх абавязацельстваў Беларусі ў 2015 годзе скароціцца. Аднак, нягледзячы на аптымістычныя планы на будучы год, беларускія ўлады звяртаюцца сёння за новым пазыкай да Міжнароднага валютнага фонду. На мінулым тыдні ў Мінску пачала працу місія МВФ, з якой улады абмяркоўваюць адпаведны пытанне.

Беларускія эканамісты тлумачаць жаданне уладаў атрымаць крэдыт у МВФ тым, што, нягледзячы на магчымае скарачэнне велічыні знешняга дзярждоўгу ў 2015 годзе, у сярэднетэрміновай перспектыве грошы ўраду зноў могуць спатрэбіцца.

«Сітуацыя ў эканоміцы прынцыпова не змяняецца, і вялікі памер дэфіцыту рахунку бягучых аперацый у нас у сярэднетэрміновай перспектыве, хутчэй за ўсё, застанецца. Таму, калі атрымаецца атрымаць недарагія рэсурсы МВФ, іх з задавальненнем возьмуць», - мяркуе Дзмітрый Крук.

На думку экспертаў, ад зыходу перамоваў з фондаў будуць таксама залежаць рэсурсы бюджэту, якія ў выпадку неабходнасці могуць быць накіраваны на стымуляванне эканомікі ў перадвыбарчы перыяд.

«Эканамічная палітыка ў 2015 годзе будзе залежаць ад наяўнасці фінансавых рэсурсаў. Мы ведаем, што ў сувязі з выплатамі па дзярждоўгу нас чакаюць вялікія выдаткі. У той жа час аб'ём фінансавых рэсурсаў, якімі будзе размяшчаць краіна, канчаткова невядомы - перамовы з МВФ аб новай крэдытнай праграме на мінулым тыдні толькі пачаліся", - адзначае Антон Балточка.

Аднак нават калі тэарэтычна ўявіць, што МВФ, які жорстка ўвязвае новую крэдытную праграму з пачаткам структурных рэформаў у беларускай эканоміцы, грошы Беларусі выдзеліць, наўрад ці ўлады змогуць распарадзіцца імі для фінансавання перадвыбарнай кампаніі. Персанал МВФ вельмі дасведчаны і добра ведае даўнія спакусы беларускіх уладаў.

Таму, хутчэй за ўсё, перадвыбарчыя «пернікі» ў 2015 годзе будуць вельмі сціплымі. Тым больш, Аляксандр Лукашэнка сёння канстатуе, што на фоне украінскіх падзей яго рэйтынг высокі, і вялікага сэнсу падкормліваць электарат у перадвыбарчы перыяд ва ўладаў няма. Таму можна пайсці і на атва непапулярныя меры ў год выбараў і пачаць барацьбу з так званымі дармаедамі. А калі выбары скончацца - з'явіцца магчымасць ўзяцца за астатнюю частку электарату...

**Дзмітрый ЗАЯЦ**

**Чытаць цалкам: naviny.by**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

*(пачатак на стар. №3)*

баз — гэта патэнцыяльная пагроза для краіны, якую могуць уцягнуць у ваенны канфлікт. Гэтыя назіранні, дарэчы, былі пацверджаны і вынікамі некаторых сацыялагічных апытанняў. Яны паказваюць, што расце колькасць людзей, якія выступаюць супраць прысутнасці расійскіх вайскоўцаў на тэрыторыі Беларусі.

— А ці шмат было тых, хто выступае за расійскія авіябазы?

— Шчыра скажу, дастаткова. Яны выступаюць не толькі за авіябазы, а наогул за шчыльную інтэграцыю з Расіяй і лічаць, што тут ніякай пагрозы для нас няма. Гэта людзі сталага ўзросту, ваенныя, якія для сябе даўно ўсё вырашылі. Альбо ім у гэтым дапамаглі расійскія тэлеканалы. А вось моладзь, на жаль, расчаравала. Шмат маладых людзей жывуць у сваім свеце лакальных праблем і абсалютна не цікавяцца грамадскімі праблемамі краіны. Хоць, натуральна, назіранні падчас збору подпісаў — гэта не нейкае сацыялагічнае даследаванне. Гэта проста нашы назіранні.

ДЭВАЛЬВАЦЫЯ

# ШТО ЧАКАЕ БЕЛАРУСКУЮ ВАЛЮТУ?

**Курс расійскага рубля ў адносінах да даляра з дня ў дзень падае. З-за такой сітуацыі айчынныя экспарцёры губляюць валютную выручку і ўсё часцей гавораць пра неабходнасць больш хуткіх тэмпаў дэвальвацыі беларускага рубля. А што рабіць у такой сітуацыі насельніцтву? У якой валюце захоўваць свае ўклады?**

***Рубель ідзе да дна і цягне за сабой экспарцёраў***

З пачатку года па 6 лістапада курс расійскага рубля ў адносінах да даляра знізіўся на 36%, а курс беларускага рубля - на 12,7%. Беларускі рубель у адносінах да расійскага рубля з пачатку года ўмацаваўся на 16,7%.

Умацаванне беларускага рубля ў адносінах да валюты асноўнага гандлёвага партнёра прыводзіць да падаражэння беларускіх тавараў. Інакш кажучы, вядзе да страты цэнавай канкурэнтаздольнасці экспарцёраў на расійскім рынку, зніжэння валютнай выручкі.

«Для экспарцёра пажаданай з'яўляецца плыўная, ўмераная і якая апярэджвае дэвальвацыя беларускага рубля да асноўных сусветных валют», - заявіў 31 кастрычніка першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка.

Ён удакладніў, што дэвальвацыя беларускага рубля павінна «ледзь-ледзь апярэджваць тэмпы дэвальвацыі асноўных сусветных валют».

***Што рабіць у такой сітуацыі насельніцтву?***

Фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра «Альпары» ў Мінску Вадзім Іосуб раіць «ўзброіцца калькулятарам і думаць сваёй галавой».

Паводле яго слоў, на сённяшні дзень дэпазіты ў беларускіх рублях з улікам бягучай працэнтнай стаўкі і тэмпаў дэвальвацыі беларускага рубля з'яўляюцца найбольш выгадным варыянтам захоўвання грошай.

Фінансавы аналітык робіць здагадку, што да прэзідэнцкіх выбараў, якія павінны прайсці восенню 2015 года, беларускі рубель у адносінах да долара будзе абясцэньвацца дастаткова плаўна.

З іншага боку, падкрэслівае ён, ніхто не дасць 100% гарантыі, што такое становішча будзе захоўвацца пастаянна, таму раіць адсочваць сітуацыю.

Калі стаўкі па рублёвых дэпазітах будуць сур'ёзна зніжацца, па валютных дэпазітах пачнуць сур'ёзна расці, а тэмпы дэвальвацыі істотна паскарацца, то, кажа Вадзім Іосуб, у такой сітуацыі калькулятар зусёды дапаможа палічыць, у які момант прыбытковасць па валютных дэпазітах зраўняецца з прыбытковасцю па рублёвых дэпазітах, а ў які момант яна апярэдзіць яе.

*(скарочана)*

**Аляксандр Ярашэвіч**
**"БЕЛАПАН"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 16.11.2014 у 17.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.